# Няхай жыве 45-я гадавіна Вялікай Кастрычніцкай Сацыялістычнай Рэвалюцыі!



Мантаж будынка пад другі блок (глядзі на стар. 6. фотарэпартаж «Палескі гігант»).


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 44 (299) | ГОД VII | 4 ЛІСТАПАДА 1962 ГОДА | ЦАНА 60 ГР


РЫГОР КІСЯЛЁЎ — Міністр культуры БССР

## РОСКВІТ КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Канчатковая перамога сацыялізма ў СССР і разгорнутае будаўніцтва камунізма адкрылі шырокія магчымасці для духоўнага росквіту беларускай нацыі. У Беларусі ўжо даўно ліквідавана непісьменнасць. У рэспубліцы працуе шырокая сетка навучальных установ: звыш 12 тысяч агульнаадукацыйных школ, ствараюцца школы - інтэрнаты, у якіх дзеці жывуць на поўным дзяржаўным забеспячэнні.

Да кастрычніцкай рэвалюцыі ў Беларусі не было вышэйшых навучальных установ. Цяпер іх 25. У 101 сярэдняй спецыяльнай навучальнай установе рыхтуюцца кваліфікаваныя кадры амаль для ўсіх галін народнай гаспадаркі і культуры. Зараз у БССР налічваецца звыш 250 тысяч спецыялістаў з вышэйшай і сярэдняй адукацыяй. Акадэмія навук з яе шматлікімі інстытутамі і лабараторыямі рашае важнейшыя праблемы эканомікі і культуры.

Буйных поспехаў дабіліся беларуская літаратура і мастацтва. З найбольш фундаментальных мастацкіх твораў, якія выйшлі ў апошніх гадах і атрымалі грамадскае прызнанне, можна адзначыць зборнік вершаў П. Броўкі «А дні ідуць...», узнагароджаны Ленінскай прэміяй, раман І. Мележа «Людзі на балоце», раман А. Адамовіча «Вайна пад стрэхамі», п'еса А. Макаёнка «Лявоніха на арбіце».

У чэрвені гэтага года беларускі народ урачыста адзначыў 80-годдзе з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры, народнага паэта БССР Янкі Купалы, а ў лістападзе 1962 года будзе адзначацца 80-годдзе з дня нараджэння паэта БССР, класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа. З імёнамі Я. Купалы і Я. Коласа неразрыўна звязаны ўздым беларускай культуры. Іх творчасць вядома і за межамі рэспублікі.

У апошні час побач з народнымі пісьменнікамі БССР Кандратам Крапівой, Міхасём Лыньковым, Петрусём Броўкам, разам з такімі шырока вядомымі майстрамі слова як Аркадзь Куляшоў, Максім Танк, Пімен Панчанка, Пятро Глебка, Іван Шамякін, Іван Мележ, Андрэй Макаёнак і другімі заявіла аб сабе вялікая група маладых пісьменнікаў Беларусі.

Галоўную ўвагу у сваёй творчасці пісьменнікі і працаўнікі мастацтва рэспублікі звяртаюць на раскрыццё духоўнага свету савецкага чытача, адлюстраванне гераічнага мінулага нашай Радзімы, барацьбы савецкага народа за выкананне грандыёзнай праграмы камуністычнага будаўніцтва.

У рэпертуарах тэатраў рэспублікі побач з рускай і заходнееўрапейскай класікай, творамі савецкіх аўтараў, вялікае месца займаюць нацыянальныя спектаклі. Сярод іх «У пушчах Палесся» і «Надзежда Дурава» А. Багатырова, «Яснае світанне» А. Туранкова, «Марынка» Г. Пукста, «Міхась Падгорны» і «Дзяўчына з Палесся» Я. Цікоцкага, балеты «Князь-возера» А. Залатарова і «Падстаўная нявеста» Г. Вагнера, опера «Калючая ружа» Ю. Семянякі, балет «Мара» Я. Глебава.

Вялікую ролю ў развіцці і прапагандзе музыкальнай і харэаграфічнай культуры адыгрываюць Беларуская Дзяржаўная Акадэмічная харавая капела пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР Р. Шырмы, Беларускі Дзяржаўны ансамбль песні і танца пад кіраўніцтвам народнага артыста БССР Г. Цітовіча, Дзяржаўны ансамбль танца БССР пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча мастацтва БССР А. Апанасенка, Дзяржаўны сімфанічны аркестр БССР, Дзяржаўны народны аркестр БССР.

У сталіцы Беларусі — Мінску працуюць старэйшы ў рэспубліцы Беларускі Дзяржаўны Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга Акадэмічны тэатр імя Я. Купалы, Дзяржаўны рускі тэатр БССР імя М. Горкага, тэатр Юнага гледача, Тэатр Лялек, цыркавы калектыў. Ва ўсіх абласных цэнтрах — Гомелі, Магілёве, Віцебску, Брэсце, Гродне, а таксама ў г. Бабруйску працуюць драматычныя тэатры. Тэатрамі рэспублікі шырока выкарыстоўваюцца творы савецкай драматургіі, рускай і сусветнай класікі. Вялікай папулярнасцю карыстаюцца спектаклі па творах беларускіх драматургаў: «Паўлінка» і «Раскіданае гняздо» Янкі Купалы, «Хто смяецца апошнім» К. Крапівы, «Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона, «Лявоніха на арбіце» А. Макаёнка.

З года ў год расце выяўленчае мастацтва Беларусі. На рэспубліканскіх і ўсесаюзных мастацкіх выстаўках побач з буйнымі майстрамі, такімі, як скульптары З. Азгур, А. Бембель, А. Глебаў, С. Селіханаў, жывапісцамі І. Ах-

(Працяг на стар. 2)



Удзельнікі танцавальнага калектыва калгаса «Чырвоная Беларусь».

Уладзімір Юзвюк

## ...І ШТО ДАЛЕЙ?

Ад некалькіх год на Сакольшчыне лік пачатковых школ з беларускай мовай як прадмет сістэматычна памяншаўся. З'явай гэтай, несустраканай у ніводным іншым павеце Беластоцкага ваяводства, зацікавіліся школьныя ўлады і нашае таварыства. Сюды пачалі часцей выязджаць мясцовыя паэты на аўтарскія сустрэчы, актыў ГП БГКТ, эстрадная група «Лявоніха», больш пачало арганізоўвацца экскурсій, было накіравана некалькі маладых настаўнікаў, закончыўшых Бельскі педліцэй, і г.д. У І-ым паўгоддзі бягучага года на кошт Таварыства была праведзена ў Паўночным Востраве канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы.

Здавалася, што пасля правядзення гэтых мерапрыемстваў сітуацыя значна палепшыцца. Аднак у верасні ізноў у дзвюх пачатковых школах родная мова перастала навучацца. Як выявілася, навучанне або ліквідацыя ў школах беларускай мовы залежала ў большасці выпадкаў ад саміх настаўнікаў. Дзеля высвятлення шматлікіх спраў, якія выступілі ў гэтага тыпу школах на Сакольшчыне, была склікана Куратарыумам Школьнай Акругі ў Беластоку канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы і кіраўнікоў школ, у якіх яна навучаецца. На канферэнцыі прысутнічала 26 асоб. Ужо ўступны рэферат візітатара І. Канапелькі, а пасля рэферат тав. Ул. Паўлючука надзвычай выразна заакцэнтавалі вялікае выхаваўчае значэнне навучання роднай мовы.

У надзвычай ажыўленай дыскусіі зарысаваліся наступныя праблемы: 1) адносіны бацькоў да навучання роднай мовы; 2) падрыхтоўка настаўнікаў да працы ў спецыяльных умовах і 3) аказванне настаўнікам дапамогі ў іх дыдактычна-выхаваўчай працы.

У беларускіх асяроддзях зараз справа адносін бацькоў да навучання роднай мовы выглядае па-рознаму. У тых паветах, дзе беларуская мова добра навучаецца звыш дзесяці год, дзе мова гэта выступае як прадмет ў сярэдніх школах, і дзе моладзь масава ідзе вучыцца пасля заканчэння 7 класаў, адносіны бацькоў прыхільныя. Гэтыя бацькі ўжо пераканаліся, што навучанне роднай мовы патрэбнае, а асноўныя веды з мовазнаўства і літаратуры нідзе і ніколі ў жыцці не зашкодзяць. Аб далейшай жыццёвай кар'еры вучня, ці то ў сярэдняй школе, ці на заводзе будуць рашаць яго адносіны да працы і акружаючага асяроддзя.

(Працяг на стар. 5)



# Амерыканскі шантаж Кубы

Ужо не ўпершыню мы чулі хлуслівае сцвярджэнне палітычных кіраўнікоў ЗША аб быццам бы пагрозе, якая вісіць над цэлым амерыканскім кантынентам з боку Кубы. Не ўпершыню таксама прэзідэнт Кенедзі намагаўся ўнушыць свету, што сямімільённы народ падрыхтоўваецца да авалодання двухсотмільённым амерыканскім народам. У выніку авантурыстычных крокаў ЗША у раёне Караібскага мора, увесь мір апынуўся ў мінулым тыдні на самай вяршыні палітычнага напружання.

Узнікае пытанне — чаму менавіта зараз амерыканцы выступілі з такой падвоенай сілай супроць Кубы? Чаму зараз абкружылі востраў кольцам сваіх ваенных караблёў, шматлікімі батальёнамі марской пяхоты і стратэгічнай авіяцыяй? Ва ўяўленні ЗША прычынай гэтага меў быць факт, што Куба звярнулася і атрымала ад Савецкага Саюза рознага роду вайсковае абсталяванне для абароны сваёй тэрыторыі. Вось гэта паслужыла Злучаным Штатам да ацэнкі сітуацыі, у якой быццам бы ім пагражае Куба.

Па сутнасці ж справа тут зусім у іншым, у тым, што нават не самае сучаснае ўзбраенне Кубы ўяўляе сабою пагрозу для ЗША, а сам факт яе існавання і рэвалюцыйнага развіцця. Не кубінскіх ракет і самалётаў баяцца сёння Злучаныя Штаты, а ідэалогіі гэтай краіны, яе маральнай сілы. Куба аказалася ж першай дзяржавай на амерыканскім кантыненце, якая правяла паспяхова грамадскую рэвалюцыю, якая на працягу амаль чатырох год патрапіла ўмацаваць свае заваёвы і распачаць будову сацыялізма. Куба ў такіх умовах з'яўляецца прыкладам для Паўднёвай Амерыкі як можна, карыстаючыся падтрымкай усяго чалавецтва, звергнуць рэакцыйны рэжым і супрацьпаставіцца імперыялістычным Злучаным Штатам. Вось чаго баяцца Злучаныя Штаты — сілы кубінскага прыкладу.

І баяцца не толькі сёння. Не трэба ж урэшце забываць аб тым, што амаль на другі дзень пасля перамогі Фідэля Кастра над Бацістай, ЗША распачалі байкот кубінскай рэвалюцыі. Спярша спынілі імпарт кубінскага цукру, пазней перасталі прадаваць нафту, каб урэшце наогул парваць гаспадарчыя зносіны з Кубай. Калі і гэта не памагло, дык пачалі кідаць запальныя бомбы на плантацыі цукровага трыснёгу — самага вялікага багацця краіны.

Варта прыпомніць, што такія падзеі адбываліся ў першай палове 1959 года, калі Куба не мела яшчэ дыпламатычных адносін з Савецкім Саюзам, а кіраўнік гэтай дзяржавы стаяў на далёкіх ад сацыялізма пазіцыях. Калі ж будзем цвяроза ацэньваць палітыку ЗША ў адносінах да Кубы, дык трэба сцвердзіць, што іх імперыялістычныя пачынанні сыгралі важную ролю ў паскарэнні працэсаў пераўтварэння кубінскай рэвалюцыі, што менавіта яны ўзмоцнілі нянавісць гэтага народа да іх. Кубінскі народ сам мог ацаніць, дзе знаходзяцца яго ворагі і прыяцелі.

Злучаныя Штаты, якія год таму назад арганізавалі дэсант кубінскіх контррэвалюцыянераў, якія зараз падрыхтоўваюць грунт для новага нашэсця, раптам пачулі сябе пад пагрозай абаронных мерапрыемстваў малой краіны. Гэта ж кпіны са здаровага розуму!

На шчасце, Куба не з'яўляецца сёння адзінокай у самаабароне, як некалькі год таму Гватэмала, у якой рэвалюцыю зліквідавала некалькі батальёнаў амерыканскай марской пяхоты. На шчасце, сёння Злучаным Штатам не ўдалося бяскарна правесці свае пачынанні супроць Кубы, як раней у выпадку Гватэмалы. У абарону кубінскай свабоды ўзняўся цэлы блок сацыялістычных дзяржаў. Канфлікт мінулага тыдня, незалежна ад яго канчатковых вынікаў, мусіў у гэтым пераканаць амерыканцаў.

Злучаныя Штаты павінны адрачыся ад арганізавання ўласнага і чужога нападзення на Кубу. Павінны пакінуць яе ў спакоі. Таму здаецца, што палітычны крызіс мінулага тыдня не толькі закончыцца выратаваннем міру ў свеце, але таксама ўмацаваннем правільнага прынцыпу неўмяшання імперыялістаў ва ўнутраныя справы дзяржаў, нават калі яны з'яўляюцца малымі.

Дзякуючы мудрай палітыцы прэм'ера СССР Н. С. Хрушчова шлях да прыняцця гэтага прынцыпу і ўмацавання міру ў выніку перагавораў быў адчынены.

УЛ. ЛАЗІНСКІ

# Росквіт культуры беларускага народа

(Працяг са стар. 1)

рэмчык, В. Волкаў, Я. Зайцаў, В. Цвірка актыўна ўдзельнічае творчая моладзь.

Мастакі Беларусі вялікую ўвагу прысвячаюць сучаснай тэме, жыццю і працы савецкіх людзей. Лепшыя творы беларускіх мастакоў экспануюцца ў Дзяржаўным музеі БССР у г. Мінску. Музей мае багатую калекцыю рускага выяўленчага мастацтва XVIII — XIX — XX стагоддзяў.

Беларуская нацыянальная кінематаграфія прадстаўлена дзвюма студыямі: кінастудыяй мастацкіх фільмаў «Беларусьфільм» і Мінскай студыяй навукова - папулярных і хранікальна - дакументальных фільмаў. Студыя «Беларусьфільм» за апошнія гады выпусціла шэраг кінакарцін, якія выклікалі жывую цікавасць у гледача, такія, як «Чырвонае лісце», «Гадзіннік спыніўся а поўначы», «Дзяўчынка шукае бацьку» і іншыя. А зусім нядаўна студыя выпусціла фільмы: «Апавяданні аб юнацтве» (прысвечаныя камсамолу Беларусі), «Дзень, у які спаўняецца 30 год» і дзіцячы каляровы фільм «Вуліца малодшага сына». Падрыхтоўваюцца кінафільмы: аб першых кроках Савецкай улады ў рэалізацыі ленінскай міжнароднай палітыкі, аб жыцці моладзі, асвойваючай цалінныя землі, лялькавая камедыя на маральна - этычную тэму, аб бяссмерці герояў, загінуўшых у баях за незалежнасць Радзімы, аб духоўнай прыгажосці воінаў — удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. Па матывах п'есы А. Макаёнка «Лявоніха на арбіце» будзе створана шырокаэкранная каляровая кінакамедыя.

У Мінску заканчваецца будова новай кінастудыі, разлічанай на вытворчасць васьмі кінакарцін у год. Кінапрацаўнікі Беларусі імкнуцца да таго, каб стварыць сапраўды буйныя, хвалюючыя творы кінамастацтва аб сучасным жыцці савецкіх людзей.

Наступнае дваццацігоддзе будзе рашаючым крокам савецкага народа на шляху да камунізма, перыядам стварэння матэрыяльна - тэхнічнай базы новага грамадства, завяршэння культурнай рэвалюцыі, выхавання новага чалавека, які б гарманічна спалучаў у сабе духоўнае багацце, маральную чысціню і фізічную дасканаласць.

Камунізм раскрывае нябачаныя духоўныя сілы народа, таленты і здольнасці людзей. Натхнёная праца і культура ў самым шырокім сэнсе яе разумення неразрыўна звязаны паміж сабой, узбагачаючы ўзаемна адна другую.

Таму не выпадкова, што разам з развіццём руху за камуністычную працу, які пераўтварыўся ў магутную сілу сучаснасці, у рэспубліцы ў розных месцах узніклі народныя ўніверсітэты культуры, народныя тэатры, народныя філармоніі, лектараты, ансамблі і іншыя новыя формы самадзейнага мастацтва, ахопліваючыя шырокія масы рабочых, калгаснікаў, інтэлігенцыі.

У Беларусі цяпер працуе звыш 18 тысяч калектываў мастацкай самадзейнасці, у якіх прымае ўдзел больш 300 тысяч чалавек. Штогод на свяце працы і песні ўдзельнічае каля 700 тысяч чалавек. У рэспубліцы працуе звыш 5 тысяч клубаў, шмат Палацаў і Дамоў культуры, каля 2 тысяч калгасных і саўгасных клубаў, звыш 20 тысяч бібліятэк з кніжным фондам у 54 мільёны тамоў. Бібліятэчныя работнікі імкнуцца да таго, каб кожны працаўнік карыстаўся ўслугамі бібліятэк. Насельніцтва рэспублікі абслугоўваецца звыш 4 тысячамі кінатэатраў і кінаўстановак.

Усё шырэй распаўсюджваецца грамадская праца ў дзейнасці культурна - асветных устаноў. Тысячы людзей грамадскім чынам прымаюць удзел у працы праўленняў клубаў і саветаў бібліятэк, кіруюць калектывамі мастацкай самадзейнасці, школамі грамадскіх прафесій, народнымі універсітэтамі, лекцыйнай прапагандай, арганізуюць прапаганду перадавога вопыту.

За апошнія тры гады агульнае прызнанне працоўных рэспублікі атрымалі народныя універсітэты. У гэтым годзе працуюць 626 народных універсітэтаў. Зараз побач з універсітэтамі культуры, якіх у рэспубліцы налічваецца 138, працуюць універсітэты тэхнічнага прагрэсу (навукі і тэхнікі), перадавога вопыту ў сельскай гаспадарцы, педагагічных ведаў, здароўя, прыродазнаўча - навуковыя (навуковага атэізма).

Прайшло параўнаўча мала часу з таго дня, як узніклі народныя тэатры, якія карыстаюцца поспехам у працоўных рэспублікі. Зараз у Беларусі працуе 23 народных тэатраў. У 1961 годзе, напрыклад, спектаклі народных тэатраў прагледзела каля 300 тысяч рабочых, калгаснікаў, інтэлігенцыі.

Побач з народнымі тэатрамі пры многіх раённых, гарадскіх Дамах і Палацах культуры створаны народныя ансамблі песні і танца, народныя харавыя капелы, народныя сімфанічныя аркестры, аркестры народных інструментаў і іншыя калектывы.

Культура Савецкай Беларусі знаходзіцца на пад'ёме. Новая Праграма Камуністычнай партыі Савецкага Саюза адкрывае перад нашым народам нябачаныя гарызонты. Працаўнікі культуры рэспублікі ў адзіным страі з усім савецкім народам змагаюцца за выкананне вялікіх планаў камуністычнага будаўніцтва, за мір ва ўсім свеце.

Р. КІСЯЛЁЎ

# Спорт

Ад сёння змяняем загаловак нашай рубрыкі і будзем пісаць не толькі пра футбол, а таксама і пра іншыя галіны спорту. Просім нашых чытачоў напісаць нам, ці такая форма спартыўных аглядаў адпавядае ім.

І так, у апошнім тыдні найбольшую ўвагу нашай спартыўнай грамадскасці прыкавалі сустрэчы на трох франтах паміж польскімі і чэхаславацкімі футбалістамі. Яны закончыліся неспадзявана карысна для нас. Першы склад прайграў чэхаславакам толькі 1:2. Гэты мізэрны пройгрыш трэба лічыць за поспех, улічваючы, што наша каманда выступала супроць віцэчэмпіёнаў свету і гульня да таго адбывалася на полі нашых супернікаў. Яшчэ больш паспяхова выступіла польская алімпійская каманда (як вядома, ігракі, якія прыймалі ўдзел у апошніх алімпійскіх гульнях, а таксама ў чэмпіянаце свету, не могуць гуляць у наступнай алімпіядзе і цяпер ужо рыхтуюцца новыя склады футбалістаў на Токіо. Гэтыя каманды і называюцца «алімпійскімі»). Нашы алімпійцы нанеслі чэхаславацкім кандыдатам на Токіо вялікае паражэнне, выйграўшы 4:0. Нашы юніёры аказаліся таксама на вышыні задання, перамагаючы чэхаславакаў з лікам 2:0.

Не менш цікавай падзеяй быў фінал чэмпіяната свету па валейболу, які нядаўна закончыўся ў Маскве. Сярод мужчын чэмпіёнамі свету сталі савецкія валейбалісты, якія ў фінале не прайгралі ніводнага матча. Аднак, трэба адзначыць, што гэтае ганаровае званне дасталося ім не лёгка. У шэрагу матчаў савецкія валейбалісты вымушаны былі выказаць максімум майстэрства і волі. Палякі, хоць занялі ў турніры шостае месца, у некалькіх матчах паказалі вельмі высокі ўзровень гульні. Нездарма яны за матч з чэхаславакамі атрымалі ўзнагароду «Савецкага спорту» за найпрыгажэйшую і найцікавейшую сустрэчу. Такі самы прыз здабылі і нашы валейбалісткі за гульню з балгаркамі. Праўда, выступленне польскіх жанчын на чэмпіянаце трэба ацаніць значна вышэй за мужчынскую каманду. Полькі занялі трэцяе месца і маюць абяспечаны старт на алімпіядзе ў Токіо (тры першыя каманды з маскоўскіх гульняў уваходзяць аўтаматычна ў склад каманд, якія будуць аспрэчваць першынства на алімпіядзе). Сярод жанчын выдзяляліся японкі, якія перакана ўча перамаглі ўсе каманды.

У беластоцкім спорце перадусім цешаць вынікі баксёраў. У міжакруговай лізе беластоцкая Гвардыя ідзе без паражэнняў і апошнім тыднем перамагла ў сталіцы рэзервы Легіі 11:7. Таксама паспяхова выступаюць беластоцкія юніёры, якія ў гульнях на кубак ГККіТ перамаглі прадстаўнікоў Познані 16:6 і ўзначальваюць турнірную табліцу.

Апошняя нядзеля таксама пацвердзіла яшчэ раз старую праўду, што ў беластоцкім спорце пануе выключны балаган. У гэты дзень адбыліся ў горадзе чатыры футбольныя матчы, з чаго аж тры на Гарадскім стадыёне. Калі да гэтага дадаць, што адбываліся яны ў халодную пагоду і ў часе, калі ў зале Ягелёніі ішло змаганне баксёраў, а па радыё трансліраваўся футбольны матч Польшча—Чэхаславакія, нічога дзіўнага, што беластоцкія футбалісты гулялі пры пустых трыбунах. Але гэта, здаецца, зусім не хвалюе спартыўныя ўлады. Важна, што статыстыка павялічылася. А што пустыя трыбуны, вялікая справа — ў ліпені, напрыклад, не толькі трыбуны свяцілі пусткай, але і футбольныя палі.

У чэмпіянаце СССР нарэшце ўдачна загуляла Беларусь, якая выйграўшы з алмаацінскім Кайратам, паднялася на адно месца ўверх і займае цяпер 19 месца. Па пятках ёй топча ераванскі Спартак, які зляцеў з верху драбінкі, але якога аддзяляе ад беларусаў толькі адно ачко.

Аўт




БАРОН фон ГОЛЬДРЫНГ

ПЕРАКЛАЎ Хведар Асіпчык



## Вяселле і смерць

Пасля смерці Мілера новым начальнікам СД у Кастэль ла Фантэ быў назначаны маёр Лемке. Гэта вельмі абурыла Кубіса, які спадзяваўся заняць пасаду свайго былога шэфа. Ён адкрыта жаліўся ў гэтым Генрыху. Той яго разважыў і накіраваў зацікаўленні Кубіса на дачку Лера. Яна мела багаты пасаг. Гэта выдатна ўздзейнічала на настрой Кубіса. Ён быў зусім задаволены, калі яшчэ, 20 красавіка, у дзень нараджэння фюрэра прысвоілі яму чын

249

маёра. Гэта было для яго поўнай неспадзянкай, тым больш, што з усяго штаба дывізіі павышэнне атрымала толькі некалькі афіцэраў. У іх ліку быў і барон фон Гольдрынг. Цяпер Генрых з обер-лейтэнанта пераўтварыўся ў гаўптмана. Зацікаўленне Кубіса Сафіяй хутка знайшло свой фінал. Яны вырашылі ўзяць шлюб.

За некалькі дзён перад вяселлем прыбыў загад камандвання Паўночнай групы: Кубіса вызначылі намеснікам Штэнгеля па ўнутранай ахове завода.

На такі шчаслівы паварот падзей для здзяйснення свайго плана Генрых не спадзяваўся. Як выявілася, прычыніўся да гэтага загаду Штэнгель. Ён пераканаў камандванне, што калі ўжо Кубіс мае парадніцца з Лера, то ён павінен мець дачыненне і да аховы завода, і да аховы асобы галоўнага інжынера. Тым больш, што сам Штэнгель вымушаны пакінуць асабняк Лера, паколькі ўвесь другі паверх цяпер адводзяць для маладажонаў.

Новае назначэнне Кубіса задавальняла ўсіх. Альфрэда Лера цешыўся, што, нарэшце, пазбудзецца апекі надта ўжо педантычнага Штэнгеля. Сафія была шчаслівa, што яе малады муж будзе працаваць на вачах бацькі. Марыя-Луіза спадзявалася, што цяпер, калі Штэнгель будзе жыць у замку, яе ўласны раман з маёрам прасунецца настолькі, што яна зможа неўзабаве змяніць жалобу ўдавы на вясельную сукенку нарачонай. Генрых разглядаў новае назначэнне Кубіса як новы шанц ажыццяўлення яго планаў.

250

Кубіс мяняўся літаральна на вачах. Ён нават стаў менш піць.

— Кубіс, вы робіцеся скупым, — заўважыў аднойчы Генрых.

— Я цяпер перакананы, што шчодрасць — сястра беднасці. Калі грошай мала, іх не цэніш. Калі ёсць капітал, яго хочацца павялічыць.

Сафія была ў захапленні ад таго, як разумна плануе іх жыццё Пауль. Яна цалкам згадзілася з Кубісам, што для гучнага вяселля цяпер не час: лепш гэтыя грошы, якія асігнаваў на гэту мэту бацька, выдаць на розныя гаспадарчыя ўдасканаленні.

Таму гасцей на вяселлі было мала. Сафія запрасіла сваю кузіну з Палерма, Штэнгеля і графіню. Пауль — генерала Еверса, Генрыха, Лютца і Лемке.

Кубіс атрымаў водпуск на тры дні, і неадкладна пасля вяселля маладыя збіраліся паехаць у Палерма, пагасцяваць у цёткі Сафіі.

Але ўсё абярнулася інакш, чым планавалася.

Калі ўсе сабраліся за вясельным сталом і генерал Еверс, на правах найстарэйшага, падняў першы тост, зусім неспадзявана з'явіўся пасланец са штаба дывізіі.

— Дазвольце ўручыць, гер генерал асабістую тэлеграму.

Еверс хутка падняўся і нецярпліва выхапіў тэле-

251

# САКРАТ ЯНОВІЧ



Сакрат Яновіч нар. 4.IX.1936 г. у Крынках, Сакольскага павета. Закончыў электрычны тэхнікум у Беластоку. Працаваў электрыкам у розных гарадах Польшчы. Ад 1956 г. працуе ў рэдакцыі «Ніва». У гэты ж час закончыў аддзяленне беларускай філалогіі беластоцкай завочнай настаўніцкай студыі.

## ВАЛОШКА

**Кропля блакіту ў спелым жытнёвым узмежку. Заглядаюцца зайздросна каласы, натапырыўшы вусы.**

**Сыплеш смехам, сінявокая; — і пошум таемнай надзеі коціцца па гонях. Трывожыць і падае сілы ў спякотным лёсе.**

**Свет малюткі сівее ў склератычным адрантвенні. Серп смерці пакідае цябе драпежным асеннім вятрам. Збыткуюць, глумяцца над пялёсткамі ўдавінай прыгажосці. Росную свежасць палошчуць сцюдзёныя ліўні. Ад знямогі горбішся ў паірдзеўшай дзярніне.**

**Ціха паміраеш.**

## БЕСКЛАПОТНАМУ

**Ліст. Чужаецца яго сонца асенняе. Ноч - вераломніца віхрамі наскоўвае, прымаразкамі мсціцца, каварная. Зямля скупіцца, голадам морыць.**

**На век свой стары зайздросна галубіць яблыка расчырванелае. Цешыцца - нацешыцца не можа ім ў адзіноцтве. А яно толькі зрэдку зірне расінкаю халоднаю, дзівіцца — не надзівіцца светам. Даверлівае, бесклапотнае.**

**Скручваецца, мяртвее ліст. Сніць у ліхарадцы сваю буйнасць мінуўшую... Не дачакаў світання.**

**Ранкам ясным варона прыляцела і да зярнятаў дзюбаю дасталася. Пакацілася чырванашчокае ў гніль гразкую пад плотам.**

## ДУМКА — НЕ КОНЬ

**Думку заграбастаць, сукастымі пальцамі сціснуць — руку вывіхнеш. На буйнасць яе хамут потны накінеш — папруга лопне. Валахатай далонню за лейцы схопішся — па барознах паедзеш.**

**Ну, а вудзілам запячэш, бы жаўтазубую морду, — на смерць затопча.**

*

## СЫНУ

**Рассохлы парог хаты бацькоў пакінуць, каб ад долі ўцячы, — можаш. Туманны ўсход і пах ліпаў забыць, каб шумным асфальтам пакрочыць, — можаш. Усмешку дзяцінства і радасць жыцця пагасіць, каб далёкія мары наблізіць, — можаш. Слова — песню сваю ў пыл дарогі швырнуць, каб хутчэй стаўбы вярставыя міналі, — таксама можаш.**

**А калі часамі слязьмі боль пакоціцца, калыханку матчыну ўспомні.**




Апрацаваў «Старонку»
**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# Больш інтэнсіўнасці

**(З ДАКЛАДА СТАРШЫНІ ЛІТАБ'ЯДНАННЯ АЛЕСЯ БАРСКАГА НА СПРАВАЗДАЎЧА- ВЫБАРЧЫМ СХОДЗЕ (6.X.1962 г.)**

Таварышам вядома, што ў апошнія часы вядуцца дыскусіі аб характары, сэнсе, змесце і форме верша. Традыцыйная паэзія, збудаваная на рытме і рыфме, перажывае несумненна крызіс. Прыхільнікі яе трактуюцца як прымітыўныя кансерватары, не здольныя вырвацца з зачараванага кола рыфмы. Не меншы крызіс перажывае і паэзія сучасная. Крызіс гэты заключаецца ў засцярогах і апазіцыі самога чытача, які не хоча змушаць сябе да чытання штучна ўскладнёных і выключна суб'ектыўных паэтычных твораў. Такім чынам, галоўная супярэчнасць новай паэзіі заключаецца ў канфлікце паміж імкненнем паэтаў да вычворнай, незразумелай архітэктонікі вобразаў верша з аднаго боку і чытача, які не намяраецца ламаць галаву над тым, каб у канцы канцоў пераканацца, што вершы гэтыя не толькі адмаўляюцца ад лагічнай формы, але і часта лагічнага зместу.

Так ці інакш, міф аб філасофскай глыбіні новай паэзіі створаны нікім іншым, як самімі паэтамі, і таму крытычныя адносіны да гэтага міфа становяцца неабходнасцю. Зразумела, што мы не асуджаем усіх сучасных паэтаў. Многія з іх прадстаўляюць сабой сапраўдную глыбіню і багацце, як зместавых якасцей, так і фармальных вартасцей. Адзін з найбольш здольных маладых паэтаў, Яраслаў Рымкевіч піша, што не можа лічыць на больш, як на 100—150 чытачоў сваёй паэзіі ва ўсёй Польшчы. Амаль усе ўдзельнікі фестывалю маладой паэзіі, які адбыўся ў Пазнані, згодна падкрэслівалі, што аднатысячныя тыражы паэтычных зборнікаў ляжаць па 5 год у кніжных магазінах. Факт гэты несумненна аб чымсьці сведчыць, і з гэтага трэба рабіць практычныя вывады. З другога аднак боку варта сабе здаць справу з таго, што форма старой паэзіі аджыла свой час. Эвалюцыя формы паэзіі з'яўляецца чымсьці натуральным і лагічным. Калі б адкінуць неабходнасць пераменлівасці паэзіі, дык сёння муселі б мы пісаць вершы накшталт вершаванай версіі «Аляксея чалавека божага», ці «Храналогіі», Рытшы, узнікшых у сярэдневякоўі. Пошукі новых форм становяцца неабходнасцю, з якой мы мусім лічыцца. Аднак паэт у сваіх пошуках павінен вывучаць межы творчай свабоды, каб не ступіць лішняга кроку і не паляцець у бездань недарэчнасці абсалютнага суб'ектывізму і поўнага разрыва з чытачом.

Думаю, што цяпер можам перайсці да эскізных рысункаў - партрэтаў некаторых членаў нашага аб'яднання. У першую чаргу зоймемся Шведам. Швед адзін з найстарэйшых членаў літаратурнага аб'яднання. Прадстаўнік найбольш традыцыйнай паэтычнай школы. Яго вершы нібы жыўцом выняты з купалаўскай паэтычнай стыхіі. Няма ў яго недасказаных думак, двузначных слоўных канструкцый, няясных вобразаў. Многія вершы Шведа, адкінуўшы рыфмаваныя канчаткі, стануцца найбольш нармальнай прозай, а нават часта прозай публіцыстычнай. І вось даходзім да парадокса. Гэтая, здавалася б, аджыўшая свой час архаічная паэзія карыстаецца папулярнасцю сярод чытача. Хочам ці не хочам, а трэба сказаць адкрыта, што Швед самы папулярны паэт з усіх членаў нашага аб'яднання. Ведаюць яго па цэлай Беласточчыне. Не думаю, каб хто-небудзь мог перагнаць Шведа ў гэтай папулярнасці. Варта падумаць, у чым заключаецца тайна папулярнасці паэзіі Віктара. Думаю, што ў першую чаргу ў аб'ектывізме яго вершаў. Паэзія Шведа амаль цалкам пазбаўлена вузкага суб'ектывізму, так характэрнага для сучасных паэтычных твораў. Швед піша заўсёды аб справах аб'ектыўных, рэальных, агульна вядомых, для ўсіх зразумелых і даступных. Прыгледзімся да тэматыкі яго вершаў: «Родная мова», «Беласточчына», «Я. Купала», «Аўрора», атамная бомба, п'янства, гультайства — хто ж не ведае, хто ж не чуў аб гэтых справах і з'явах? Кожны! Шведа цікавяць толькі справы вялікія, цэласныя, гістарычныя, не прызнае ён момантаў, дэталяў, эпізодаў і рэфлексій, і гэта якраз, відаць, цікавіць нашага чытача, які характарызуецца спецыфічнымі густамі і спецыфічным узроўнем. Можна спрачацца аб вартасці паэзіі Шведа. Калі аднак прыняць, што асноўным мерылам вартасці твора з'яўляецца ацэнка масавага чытака, дык няма ніякіх сумненняў, што Швед, паэт значнай рангі і вялікага грамадскага значэння.

Абсалютнай супраціўлегласцю да Шведа з'яўляецца Яша Бурш. Цікава, што па сваім характары як людзі Швед і Бурш маюць многа супольных момантаў, адзначаюцца аднолькавай лагоднасцю і дабратой, вялікай даверлівасцю да людзей і надзвычайнай наіўнасцю, якой характарызуюцца многія паэты.

Арыгінальнасць Бурша заключаецца не толькі ў плюшавых ружовых нагавіцах, але Бурша цэлы свет напоўнены нечаканымі паваротамі. Адным з гэтых паваротаў з'яўляецца для яго кожны ўласны верш. Праўдападобна, Бурш, прыступаючы да стварэння паэтычнага твора, не ведае найчасцей, які будзе яго змест. У яго творчасці перажыванне, падыктаванае творчым момантам, акрэслівае характар і сэнс верша. Паэзія Бурша, у адрозненні ад Шведа, выключна суб'ектыўная, не знойдзеце ў ёй агульнавядомых фактаў, здарэнняў ці вобразаў. Вузкі суб'ектывізм — гэта галоўны элемент паэтычных канцэпцый Бурша. Суб'ектывізм гэты чыніць яго паэзію незразумелай шырокаму колу чытачоў. І таму не можа быць гутаркі аб шырокай папулярнасці Яшы ў беларускім асяроддзі. Няма аднак ніякіх сумненняў, што вершы яго стаяць на высокім мастацкім узроўні. Маюць яны арыгінальны непаўторны сэнс, унутраную індывідуальнасць, уласную буршаўскую філасофію, без якой не можа быць гутаркі аб высока мастацкай паэзіі. Думаю, што варта толькі цешыцца, што ў нашым асяроддзі знаходзіцца чалавек тыпу Бурша, які з'яўляецца звяном звязваючым традыцыю з новымі пошукамі сучасных паэтаў.

Асобную карту становіць творчасць Алеся Свіська — чалавека, які сваім жыццёвым вопытам перавышае многіх членаў літаратурнага аб'яднання. Свісёк канцэнтруе сваю ўвагу ў першую чаргу на паэзіі, аднак яго апавяданне «Людзі і чалавекі» адзначаецца таксама высокім паэтычным узроўнем. Да асабліва цікавых належаць вершы, прысвечаныя настаўнікам і моладзі. Думаю, што няма сярод нас паэтаў, якія маглі б перагнаць Свіська ў майстэрстве малявання перажыванняў і спецыфікі быту настаўніцкага асяроддзя.

Цікавай індывідуальнасцю творчай манеры ў паэзіі і прозе адзначаецца Янка Дубіцкі. Творчасць яго — гэта глыбокі аналіз унутраных перажыванняў, псіхічных камплікацый і станаў, якія ў перакананні аўтара з'яўляюцца галоўным рухавіком чалавечага дзеяння. Дубіцкі творыць прозу глыбока псіхалагічную, перамаючую чытача сваім гуманным зместам. У яго паэзіі выступа-

(Працяг на стар. 7)



На здымку: удзельнікі семінара. фота: Г. Рагазінскі

# Калі працуецца з агеньчыкам

Словы аднавяскоўцаў, як аплявухі, распальвалі яму твар. Аляксандру Бойку ўспаміналіся сямейныя нягоды і нетактоўнасці. Ён пачаў разумець памылкі, дапушчаныя ў выхаванні свайго сына Вані. Нахмурыўшыся, глядзеў ён на членаў грамадскага камітэта партыі і з увагаю выслухоўваў усе закіды.

— Вы станоўча замала ўдзяляеце ўвагі сваім дзецям, не цікавіцеся паводзінамі свайго сына, — працягваў сакратар КГ Рыгор Аніскевіч. — Ваню толькі 16 год. Што будзе з ім далей? Куды завядзе яго хуліганства?

Таварыш Аніскевіч і іншыя члены КГ пераканаўча даказвалі недахоп бацькоўскага выхаваўчага ўплыву на сына. Усе яны гаварылі аб тым, што Ваня зневажае старэйшых, што п'е гарэлку, што распачынае бойкі, што з яго вуснаў вылятаюць нецэнзурныя словы.

Бацьку яшчэ ніколі не было так прыкра, тым больш, што людзі, якія размаўляюць з ім, ад душы жадаюць, каб яго сын парваў сваімі хуліганскімі паводзінамі, і ўсе яны хочуць дапамагчы ў гэтай справе.

Гутарка аб горкай праўдзе набліжалася да канца. Аляксандр Бойка ўстаў, паціснуў рукі сваіх субяседнікаў і сказаў:

— Дзякую, шчыра дзякую, таварышы, за клопаты. Я буду старацца, каб сын не вырас хуліганам.

Усхваляваны Аляксандр Бойка пайшоў дамоў, а грамадскі камітэт партыі у Семяноўцы яшчэ доўга абмяркоўваў уплыў партыйнай арганізацыі на моладзь грамады.

*

Пятнаццацігадовы юнак, закончыўшы 7 класаў, выходзіць з-пад уплыву школы. Асабліва восенню і зімою ў яго многа часу. Яму ж ужо не трэба рыхтаваць урокі. Да работы на прадпрыемствах падлеткаў таксама не прымаюць. Такая моладзь найбольш хуліганіць на вёсцы. І вось таму на адным з паседжанняў КГ у Семяноўцы было пастаноўлена паклікаць спецыяльную камісію, якая ўцягнула б моладзь у мастацкую самадзейнасць. Узначаліў камісію настаўнік Пятро Карпюк. Пры вялікай дапамозе члена КГ школы у Семяноўцы Эдуарда Бая арганізаваліся мастацкія гурткі ў Семяноўцы, Луцэ і Тарнопалі. Моладзь пачала даваць канцэрты не толькі ў сваіх, але і ў суседніх вёсках.

Ад таго часу ўжо мінуў амаль год. І за гэты кароткі час, дзякуючы належнай апецы партыйнай арганізацыі, моладзь стала добра сябе весці. Ваня Бойка таксама стаў акуратным юнаком.

М. СВАЯК



Рыгор Аніскевіч працуе чыгуначнікам і мае шмат сваіх прафесіянальных абавязкаў. Але, не гледзячы на тое, ён шмат удзяляе ўвагі партыйнай дзейнасці. І ён залічваецца да самых перадавых сакратароў КГ на Гайнаўшчыне.



## Астраўская школа

Проста не верыцца, што да 1939 года рэдка хто на вёсцы вучыўся ў 5-ым альбо 6-ым класе. А з Паўднёвага і Паўночнага Вострава (Сакольшчына) да вайны закончыла 7 класаў толькі 3 асобы. Усе дзеці, як правіла, канчалі толькі 4-ы класы.

Велізарныя перамены зайшлі ў галіне асветы за гады народнай улады. Паміж гэтымі вёскамі пабудавана вялікая прыгожая 7-мікласная школа. Тут на паверху знаходзяцца таксама выгадныя кватэры для настаўнікаў.

На здымку: Астраўская школа.

Тэкст і фота: М. Х.

З ЖЫЦЦЯ БГКТ

## У СУВЯЗІ З ГАДАВІНАЙ

**Нядаўна ў Гайнаўцы ў доме настаўніка была арганізавана аддзелам БГКТ вечарына прысвечаная 80 гадавіне з дня нараджэння Янкі Купалы. Даклад аб жыцці і творчасці выдатнага беларускага пісьменніка прачытаў вядомы на Беласточчыне паэт Алесь Барскі. Пасля чытаў ён свае вершы і адказваў на пытанні, якія давалі яму прысутныя.**

**З вялікім поспехам выступаў з п'есай Янкі Купалы «Прымакі» мастацкі калектыў гуртка БГКТ са Скупава. Вечарына была вельмі ўданая. Многіх зацікавіла выстаўка мастака, мясцовага настаўніка беларускай мовы Анатоля Корзуна. Пасля чорнай кавы пачаліся танцы.**

**І так настаўнікі з павета, члены і сімпатыкі БГКТ у Гайнаўцы вельмі культурна правялі вечар, прысвечаны 80 гадавіне з дня нараджэння вялікага беларускага пісьменніка Янкі Купалы.**

**МХ**

## Зямля ў надзейных руках

Калі гаворым аб сельгасгуртках, перш за ўсё маем на ўвазе шырокую механізацыю апрацоўкі зямлі. Справа, вядома, вялікай важнасці. Ужо зараз не супярэчаць гэтаму нават найбольш закаранелыя прыхільнікі старыны.

Аднак сельгасгурток — гэта не толькі трактар з камплектам дадатковых машын і абмалотачным агрэгатам. Найлепш аб тым сведчаць пачынанні некаторых сельскагаспадарчых гурткоў у Гайнаўскім павеце.

У звыш палавіне вёсак гэтага павету існуюць і дзейнічаюць сельгасгурткі. У іх распараджэнні знаходзяцца 23 трактарныя камплекты і 51 абмалотачны агрэгат. Уявіўшы сабе, што на Гайнаўшчыне налічваецца 120 вёсак і дадаўшы яшчэ машыны спулдзельняў прадукцыйных, атрымаем, зразумела, яшчэ недастатковы, але даволі высокі ўзровень механізацыі, аблягчаючай цяжкую працу хлебаробу.

13 сельгасгурткоў апрацоўвае звыш трохсот (314 га) гектараў дзяржаўнага фонда зямлі. Загаспадараванне такой плошчы зямлі мае сваю вартасць не толькі ў эканоміцы павета, але таксама не застанецца без уплыву на эканоміку цэлага ваяводства. Просты ж рахунак паказвае, што такая плошча зямлі нават ужо пры сярэднім ураджаі можа даць звыш мільёна злотых даходу.

На першае месца ў гэтых пачынаннях вылучаецца гурток з Вулькі (той, пад Курашавам). Гурткоўцы з Вулькі ў мінулым годзе супольна абсеялі жытам плошчу ў 60 гектараў. Даход павялічыў іх супольны фонд. Вясною бягучага году вульчанскія гурткоўцы звыш дваццаці гектараў засеялі ярыной, астатнюю плошчу прызначылі пад лубін, а затым восенню зноў пасеялі там жыта.

Наступнае месца па супольнай апрацоўцы зямлі з дзяржаўнага фонда займае ў Гайнаўскім павеце сельгасгурток у Дубічах Царкоўных. Ён загаспадараваў 32 гектары зямлі, быўшай у аблогах.

Ад Вулькі і Дубіч нямнога адстае сельгасгурток у Ставішчах. На яго долю ў б. г. прыпадае 16 гектараў супольна загаспадараванай зямлі. Мінулагодні і сёлеташні даход ставішчане прызначаюць на пакупку другога трактарнага камплекта.

Асноўную частку супольна загаспадараванай зямлі гурткоўцы абсяваюць кваліфікаваным, высакаякасным насеннем, а затым праводзяць міжсуседскі абмен. Такім чынам хлебаробы атрымліваюць высакаякаснае насенне ад сваіх суседзяў. Гэта, зразумела, непасрэдна садзейнічае павышэнню ўраджайнасці.

(вр)

## МАТАЦЫКЛІСТЫ

Тэхніка пайшла ў вёску. Зараз у гаспадароў многа розных сельскагаспадарчых машын. А людзі з веласіпедаў перасядаюць на матацыклы. Проста, мода стала на іх. Кожны імкнецца як мага хутчэй атрымаць «права язды» і купіць матацыкл. Амаль ва ўсіх вёсках людзі дамагаюцца арганізавання курсаў язды на матацыклах. Сямяціцкі аддзел БГКТ пайшоў на спатканне жыхарам некаторых вёсак і арганізаваў такія курсы ў Мілейчыцах і Вілянове.

На здымку: Новыя матацыклісты з Мілейчыц.

Тэкст і фота: М. Х.



(Працяг са стар. 2)

граму з рук пасланца. Прабегшы яе вачыма, генерал нейкі момант прастаяў зусім нерухома і раптам хіснуўся. Лютц, што сядзеў побач, ледзь паспеў падхапіць генерала за плечы.

— Загадаеце паслаць за лекарам? — стурбавана спытаў ён.

— Не трэба. Зараз усё міне... — нейкім чужым голасам сказаў Еверс і абвёў ўсіх прысутных доўгім позіркам, спыніўшы яго на Лемке. — Выйду на балкон, і ўсё міне...

Выйшаўшы на балкон, генерал шчыльна прычыніў за сабою дзверы.

— Нейкая непрыемнасць, — прашаптала графіня. — Можа, што з жонкай... Адкуль тэлеграма?

— З Берліна, — адказаў пасланец.

— А жонка яго ў Дрэздэн.

— Магчыма, — пачаў было Лемке...

На балконе прагучэў выстрал.

Усе кінуліся туды.

Еверс ляжаў на падлозе, шырока раскінуўшы рукі. Са скроні струілася кроў.

Першым апамятаўся Лемке. Нахіліўшыся над генералам, ён разагнуў пальцы яго заціснутай ў кулак левай рукі і асцярожна выцягнуў з яе тэлеграму. Праз яго плячо Генрых уголас прачытаў тэкст: «Неадкладна выязджай на курорт». Подпісу не было.



Бледны, як палатно, Лютц стаў на калені і, прыціснуўшы вуха да грудзей свайго начальніка, слухаў, ці б'ецца яшчэ сэрца. Сэрца генерала Еверса не білася.

— Што гэта можа значыць? — Лемке пытальна глянуў на Генрыха.

— Пакуль гэта азначае адно — усе мы павінны быць на сваіх месцах.

Афіцэры выйшлі. Лемке адразу павярнуў ў штаб СД, і Генрых з Лютцам засталіся адны.

Абое былі аглушаны тым, што сталася.

— Што ты пра ўсё гэта думаеш, Генрых?

— Нічога добрага гэта не прадказвае. Мне здаецца... Чакай, чаго гэта бяжыць дзяжурны штаба?

— Гер гаўптман, гер гаўптман! — Дзяжурны спыніўся, губы яго трасліся. — Обер Кунст застраліўся ў сябе ў кабінеце!

— Ён атрымаў тэлеграму з Берліна? — спытаў Генрых.

— За пяць хвілін да самагубства.

— Яму раілі паехаць на курорт?

— Так точна! І нават неадкладна!

— Неадкладна пазваніце пра гэта Лемке. Ён зараз у сябе. І да яго прыезда нікога ў кабінет не пускайце.

Дзяжурны пабег назад у штаб. За ім памалу падняліся на другі паверх Лютц з Генрыхам.

— Ну, а цяпер што ты скажаш?

— Змахвае на змову... А ўключы радыё!



Але радыё, як заўсёды ў гэты час, перадавала бравурныя маршы.

Усё выявілася толькі адвячоркам, калі прыбыў спецыяльны самалёт з Берліна. Упаўнаважаны Гімлера прыляцеў з наказам арыштаваць Еверса і Кунста і даставіць абоіх у штаб-кватэру.

Камандзір, генерал - лейтэнант Еверс, і начальнік штаба дывізіі, оберст Кунст, абвінавачваліся ў тым, што яны бралі ўдзел у змове супроць фюрэра і мелі дачыненне да замаху на яго асобу.

Замах на фюрэра значна пашырыў уплыў і значэнне каральных органаў і ў арміі, і сярод насельніцтва. Ішлі арышты — кожны афіцэр адчуваў сябе няўпэўнена.

Вось чаму тэлеграма, у якой барону фон Гольдрынгу прапанавалася неадкладна прыбыць у штаб камандвання Паўночнай групы, усхвалявала Генрыха. Даведаўшыся пра выклік, Лемке падазрона глянуў на Генрыха, і ў вачах яго бліснулі злавешчыя аганькі. Ён быў упэўнены, што выклік у штаб дабром для Гольдрынга не кончыцца.

Генрых вельмі добра зразумеў значэнне позірку Лемке і непакой яго ўзрос яшчэ больш.

У штабе камандвання Генрыху заявілі, што ён павінен з'явіцца ў галоўнага вайсковага каменданта фон Кронэ.

Генрых адчуў, як сэрца яго сумна сціснулася. Думка пра схаваны пад манжэтам мундзіра малень-

(Працяг на стар. 7)

# Трыбуна чытачоў

## Сакрэт высокіх ураджаяў

Гаспадары ГРН Завады, Лапскага павета, ляліся да жывога на сам успамін аб штучных угнаеннях. Валілі грошы ў зямлю, а ўраджай замест падымацца — падаў. Таму, калі ў нашай аколіцы з'явіўся аграном, людзі сустрэлі яго непрыхільна. Аграном Семянюк пастанавіў знайсці прычыну гэтага. Яна хутка выявілася. Аказалася, большасць гаспадароў давала толькі азатовыя ўгнаенні, бо відаць адразу эфект, збожжа прыгожа расце. А пачнуць малаціць — няма ўмалоту. Прычына ў глебе, яна ў нас вельмі кіслая. Каб пераканаць у гэтым сялян, аграном у мінулым годзе прывёз навазовае вапна. Але ніхто не хацеў яго браць. Давялося аграному сілай развозіць вапна на поле і кожнаму тлумачыць пад што трэба яго даваць.

Там, дзе было прыменена вапна, ураджай аказаўся большы, глеба павысіла культуру, ачысцілася ад зелля. Часлаў Гогаль з Завад кажа, што пасля вапна бульба абрадзіла як бруква.

У гэтым годзе аграном не хадзіў па хатах намаўляць гаспадароў, а яны прыходзілі да агранома і прасілі, каб той зрабіў запатрабаванне на вапна. Прыйшло 65 тон, якія разляцеліся, як трэснуў. Былі такія, што самаход перапынялі на дарозе і заварочвалі на поле. Некаторыя гаспадары, як Камінскі, Несцярэўскі, Пінчук, Ледаховіч бралі па 3 тоны. Так што многім не хапіла і яны атрымаюць вапну ў наступнай чарзе, на вясну. Аднак гаспадары не хочуць чакаць, яны ўжо хочуць удабрыць зямлю, бо пераканаліся, што вапна пабуджае ўгнаенні да дзейнасці і, гэтым самым, дае гаспадару высокі ўраджай.

**К. Каліна**

ПРЭЗЭС ЯНЧУК ЗАЎЗЯЎСЯ

## — Ваш Крывец і хлеб мяне не цікавяць

— Ды во як з намі гаворыце, — непрыемна здзівіліся настаўнікі крывецкай школы.

— Так!! — выкрыкнуў прэзэс Янчук з нараўскага ГС-у і, відаць, швырнуў тэлефонную трубку. Канец размовы.

Праз некаторы час, здаецца, як бы змяк чалавек. Хіба зразумеў, што павёў сябе, як вучань - перарастак, якому ўляпілі двойку, напрыклад, па арыфметыцы.

— Пачакайце крыху, выкамбінуем што-небудзь, — пацешыў.

Чакалі — дачакацца не маглі. А ўся «камбінацыя» заключаецца ў тым, каб у краму ў Крыўцы хаця адзін раз на тыдзень дастаўляць пару бохнаў хлеба (можа быць і чэрствы), які надта ж патрэбны ў жыцці настаўніка. Калі нават каўбасу прысылаюць на гандаль у гэту вёсачку, ды яшчэ якую каўбасу — па 50—70 зл. за кілаграм — дык з чым жа яе есці? З хлебушкам, пане, з хлябцом. А мо' з мядоўнікамі?!...

Але ГС у Нарве зусім не думае раскаяцца. Мсцівая штука!. Зіма не за гарамі і настаўнікам спатрэбіўся вугаль.

— Няма!! — коратка адрэзалі ім.

Настаўнікі зноў званяць, пытаюць праступджаным голасам:

— Чулі, што прадаеце ўжо вугаль?

— Праўда, прадавалі, але чатыры дні таму назад.

— Нічога не разумеем!? Мы ж дакладна чатыры дні таму назад даведваліся ў вас пра вугаль і сказалі нам, што яшчэ не маеце яго...

Што праўда, у гэтай справе цяжка вінаваціць асабіста прэзэса Янчука, бо тэлефон прымаў, праўдападобна, нейкі рэферэнт — персона нязначная ў службовай драбіне.

**Адоль КАСТРЫЦА**

## Больш інтэнсіўнасці

(Працяг са стар. 3)

юць прыгожыя радкі, параўнанні і вобразы. Аднак побач іх нярэдка знаходзім досыць неахайныя і непарадныя паэтычныя формы. Думаю, што Дубіцкі павінен звярнуць большую ўвагу на справу выраўнання ўзроўню сваіх вершаў, якія належаць несумненна да высокамастацкай паэзіі.

Апрача названых і коратка ахарактарызаваных членаў нашай арганізацыі маем у сваіх радах многа цікавых індывідуальнасцей, творы якіх паяўляліся або паяўляюцца на літаратурнай старонцы і ў іншых выданнях. У першую чаргу хацелася звярнуць увагу на надзвычай арыгінальны гумар Заставіна, які, на жаль, піша вельмі рэдка, на цікавыя вершы Шатыловіча, які піша яшчэ радзей, на творчасць В. Барышчэўскага і Сошкі, якія перасталі пісаць наогул. Нямала ўнёс у нашую творчасць С. Яновіч, Я. Хлябіч, Мікалай і Уладзімір Гайдукі, а таксама многія іншыя аўтары.

З аказіі сённяшняй сустрэчы хацелася б звярнуцца да ўсіх з заахвочваннем да большай інтэнсіўнасці ў творчасці, без якой не можа быць добрых вынікаў.

**А. БАРСКІ**

## ДОБРЫ ГАСПАДАР

Іван Скепка з Альхоўкі (Гайнаўскі павет) — гэта добры гаспадар і майстар. Яго ведаюць не толькі ў Альхоўцы. Не аднаму гаспадару ў аколіцы рабіў ён вокны, дзверы, ці нават печ. Нямала і дамоў пабудаваў. Але таксама ён вядомы і з іншага боку. Цяпер І. Скепка з'яўляецца старшынёй сельгасгуртка ў Альхоўцы (ён, зрэшты, яго і арганізаваў) і ў гэтай галіне мае немалыя дасягненні. Менавіта дзякуючы яго намаганням, гурток мае ўжо агрэгат і апрысківач.

— Трактара яшчэ набыць не можам, — кажа старшыня, — бо працаваць ім на нашых вузенькіх палосках немагчыма. І таму робім захады, каб у нашай вёсцы былі калоніі.

**Юрка Скепка**
Альхоўка

(Працяг са стар. 4)

кі браўнінг мільганула, бы маланка. Толькі б не правароніць момант! А можа, усё абыдзецца, як свайго часу ў кабінеце Лемке?

— Вас інфармавалі, навошта вас выклікалі? — спытаў Кронэ, калі Генрых далажыў яму сваё прыбыццё.

— Не, проста загадалі з'явіцца ў вас.

— Дык вось што, гер гаўптман: пасля тых падзей, што адбыліся днямі ў Берліне, камандванне вырашыла пакінуць усе цырымоніі з гэтымі італьянцамі і завесці ў паўночнай Італіі суровы акупацыйны рэжым. Цяпер мы ўводзім вайсковыя камендатуры, якім падпарадкоўвацца будуць усе муніцыпалітэты. Камендантам Кастэль ла Фантэ і ўсяго раёна вызначаем вас. Ад сёння вы яго поўны гаспадар і цалкам адказваеце за парадак у ім. У вашым асабістым распараджэнні будзе рота горскіх егераў, рота чорнасарочнікаў і два ўзводы парашутыстаў. Ведаю, — сілы малыя для такога раёна, як ваш, але нічога не зробіш... У выпадку крайняй неабходнасці можаце звярнуцца па дапамогу да падраздзяленняў дывізіі, да маёра Штэнгеля. Але падкрэсліваю — гэта толькі ў крайніх выпадках.

(Працяг за тыдзень)

255

ТОЛЬКІ ДЛЯ ЗАКАХАНЫХ

## Сардэчныя тайны

**Дарагое СЭРЦАЙКА!**

Мне 23 гады. Жыву пры бацьках. Разам працуем на гаспадарцы. Патрэбна я ім, памагаю ў працы і жыццё нашае ўкладаецца згодна. Я многа чытаю, цяпер хаджу ў школу сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Бацькі мае шануюць мяне і разумеюць. Справу замужу аддалі мне ў рукі. Але шумяць іншыя. «Старая дзеўка» — назва гэтая прыліпла ўжо да мяне. Зласлівыя дакучаюць, што ніхто моў яе не браў, таму і не выйшла. Але гэта, дарагое Сэрцайка, няпраўда. Проста нейкі гонар не пазваляў мне лавіць мужа ў 18—20 год, ды я яшчэ, праўду кажучы, не сустрэла такога хлапца, каб мне падабаўся, а выйсці замуж толькі для таго, каб змяніць сваё прозвішча, дык і ў 23 гады не маю намеру. І цяпер яшчэ лічу, што магу пачакаць, скончу вось школу, а тады падумаю аб гэтых справах. Надаелі толькі мне ўжо людскія языкі. Ці ты хоць крыху згаджаешся са мной?

**Люда**
з Дуброўскага павета

**Дарагая ЛЮДА!**

Пэўна, што я ва ўсім згаджаюся з Табой. Цікава мне толькі, якая гэта ў Вас вёска, што 23-гадовыя дзяўчаты называюцца «старымі дзеўкамі». Гэта ўжо перажытак, і цяпер мала дзе існуюць такія з'явы. А Ты і Твае бацькі маеце рацыю. Вельмі добра, што Ты пастанавіла перш кончыць школу, а пасля думаць аб іншых справах. Больш бы дзяўчат з такім розумам — менш было б пазней сямейных трагедый. А на людскія языкі не звяртай увагі, яны ж нікому не памаглі і не зашкодзілі. Жадаем пасяховага заканчэння навукі.

**СЭРЦАЙКА**

## У ляўкоўскай бібліятэцы

Ляўкоўская бібліятэка абслугоўвае 10 вёсак. І трэба сказаць, што ў гэтым закутку Беласточчыны кніжка становіцца ўсё больш папулярнай, а ў некаторых выпадках і духоўнай неабходнасцю сялян. За некалькігадовы перыяд свайго існавання, бібліятэка ў Старым Ляўкове здабыла 200 пастаянных чытачоў. І найважнейшае, што лік іх узрастае. У гэтым не малая заслуга бібліятэкаршы Ольгі Харкевіч. Чым яна здабывае чытачоў? Перадусім умелай парадай у выбары той ці іншай кніжкі. Каб зацікавіць шырэйшы круг людзей літаратурай, яна склікае сходы аматараў чытання ўголас. А чытае яна цікава, эмацыянальна. І на сходы - чыткі збіраецца многа людзей. Сярод слухачоў ёсць здольныя чытальнікі і яны часта замяняюць бібліятэкаршу. Апошнім часам у нашай бібліятэцы чыталі «У агні» Ільі Гурскага. Хутка прайшоў час пры кніжцы. Раман усім спадабаўся. Дзякуючы гэтаму беларускія кніжкі здабываюць у нас усё большую папулярнасць. Вельмі прыемна адзначыць, што калі моладзь чытае беларускія кніжкі, то і старэйшыя жыхары любяць паслухаць.

Цяпер наша бібліятэка з'яўляецца цэнтрам культурнага жыцця вёскі.

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

## Конкурс «НІВЫ»

**Прыпамінаем, што 15 лістапада г.г. канчаецца тэрмін прысылання лістаў на новы конкурс «Нівы» п.з. «Якую хочаце чытаць аповесць у 1963 г.?» Для тых, хто забыў пра ўмовы конкурса, яшчэ раз паведамляем, што трэба толькі напісаць, якога характару аповесць хацелі б Вы чытаць на старонках «Нівы» у будучым годзе. Дык хутчэй пішыце і шліце лісты ў рэдакцыю.**

**Сярод удзельнікаў конкурса будуць разлясаваны кніжныя ўзнагароды.**



# КІНО

**ПРАГРАМА на 5.XI. — 11.XI.1962 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Lecą żurawie" (radz.), 6—8.11. „Marynarz z Komety" (radz.), 9—11.

**Кляшчэлі**
„Szukam mojej dziewczyny" (radz.), 6—8. „Tajemnica zielonego boru" (radz.), 9—11.

**Навасады**
„Zmartwychwstanie" II s. (radz.), 9—11.

**Нараў**
„Koiysanka" (radz.), 7—11.

**Нараўка**
„Zmartwychwstanie" I s. (radz.), 7—11.

**Чаромуха**
„Śladami bandy" (radz.), 6—8. „Cichy Don" I s. (radz.), 9—11.

**Чыжы**
„Miasto bez wody" (radz.), 7—11.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Kołysanka" (radz.), 7—11.

**Бранск**
„Mój ukochany" (radz.), 6—8. „Dziewięć dni jednego roku" (radz.), 9—11.

**Гродзіск**
„Mumu" (radz.), 10—11.

**Орля**
„Miłość powraca wiosną" (radziecki), 7—11.

**Райск**
„Pokój przychodzącemu na świat" (radz.), 7—11.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Mój ukochany" (radz.), 6—8. „Dziewięć dni jednego roku" (radz.), 9—11.

**Міхалова**
„Los człowieka" (radz.), 6—8. „Artysta do wszystkiego" (radz.), 9—11.

**Супрасль**
„Lecą żurawie" (radz.), 6—8. „Z iskry rozgorzeje płomień" (radz.), 9—11.

**Чорна Беластоцкая**
„Pilot odrzutowca" (radz.), 6—7. „Dom w którym żyjemy" (radziecki), 9—11.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**
„Cichy Don" (radz.), II s. 6—7. „Cichy Don" (radz.), III s. 9—11.

**Мілейчыцы**
„Nocny patrol" (radz.), 6—8. „W okopach Stalingradu" (radziecki), 9—11.

**Нурэц**
„Szukam mojej dziewczyny" (radz.), 6—8. „Jewdokia" (radziecki), 9—11.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Pojedynek" (radz.), 6—8. „Poławiacze gąbek" (radz.), 9—11.

**Сухаволя**
„Pierwszy lot w Kosmos" (radziecki). 6—8 „Marynarz z Komety" (radz.), 9—11.

**Шудзялава**
„Burzliwa młodość" (radz.), 7—11.

**Янаў**
„Wieczór trzech króli" (radz.), 6—8. „Martwe dusze" (radz.), 9—11.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**
„Salwa o świcie" (radz.), 10—11.

**Новы Двор**
„Życie przeszło obok" (radz.), 10—11.

**Ружаны Сток**
„Bitwa pod piramidami" (radziecki), 10—11.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1.
Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.
Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2.40 zł kwartalnie — 7.20 łz, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.
Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-5-100024
Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $, w Europie 5 $ — w USA.
Nakład 5000. Błtk F-3

